робяць другіе, лічыць шкодным і стараецца разбіць, зьніштожыць. Ды гэта ня толькі ў палітыцы але і ў справах штодзеннага жыцьця, культурнае і экономічнае работы і т. д. Адна за аднэй творацца новые групы, якіе думаюць, бытцым гэта яны адкрылі Амэрыку і бытцым гісторыя нашага краю пачынаецца ад момэнту іх нарадзін. І вось ня гледзючы на тое, што ў сучасных страшэнна цяжкіх варунках сяла краю — ў еднасьці яго жыхараў, тут мы не бачым у паадзінокіх соцыяльных груп і партый ніякага жаданьня злучыць у вадно сваe сілы дзеля згоднай працы для аднае мэты.

Шукаючы прычын гэтага, мімаволі зварочываеш увагу на тое, што тут, у нас, партыйные групіроўкі неяк не выходзяцца з раздзелам на станы і клясы. Тут партыі (— незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці) у значнай меры вырастаюць ня гэтулькі на грунці клясовых і становых інтарэсаў, сколькі на грунці ідэолёгіі паадзінокіх людзей, каторые нічым не зьвязаны з клясай, якую хочуць прэдстаўляць. Такіе людзі не маюць магчымасьці пранікнуцца інтарэсамі клясы, для якой працуюць: пад той час, як першы лепшы буржуй і работнік роўна разумеюць, што дзеля заваеваньня палітычнае незалежнасьці для нашага краю яны павінны на гэты момэнт забыцца аб нязгоднасьці іх соцыяльных інтарэсаў і ісьці разам, — ідэолёгі чужых для іх кляс і станаў гэтак захопліваюцца пазычэнай імі ідэяй, што для іх край перастае істнаваць, што яны ня могуць глянуць шырэй — за вузка-клясовые рамкі. І яны ніколі не кідаюць барацьбы з усімі, хто думае іначэй за іх, — яны нішчаць работу другіх, не разумеючы, што гэтак падсекаюць сук, на каторым самі-ж седзяць.

Сьляпые! Але ў палітыце сьлепата — гэта найцяжэйшы праступак перад грамадзянствам, — і німа за яго зьмілаваньня.

*Х. Х.*

## «КАГАНЕЦ»

*(пасьмертны успамін).*

Жыва ўспамінаецца Яго згорбленая фігура, Яго заўсёды спакойны голас, Яго скупые на словы гутаркі, ведзеные ў Менску ў канцы 90 х гадоў мінулага сталецьця с першымі сеўцамі ідэі беларускага адраджэньня.

Тады была нас яшчэ зусім малая жменя—сьвядомых беларусаў. Тады зусюль мы чулі адно толькі насьмешкі, калі памыкаліся гаварыць аб правох Беларускага народу, аб нашай веры ў яго сьветлую будучыну.

„Каганец“ быў заўсёды з намі. Першы пайшоў на вёску, першы нёс туды новые думкі, новые словы.

Селяне слухаліся Яго: для іх Ен быў свой, блізкі, бо між імі вырас, разам з імі робіў усе вясковые работы. Знаў іх жыцьцё і думкі, ведаў усе казкі і легенды народные.

„Каганец“ здаўна меў нахіл пісаць. Пісаў вершы і прозу, а і тут і там выяўляў незвычайна гарачую любоў да свайго народу і свае Бацькаўшчыны — Беларусі. Яго першые творы былі друкаваны ў нелегальным выдавецтве „Калядная Пісанка“ 1903 году, выпушчэным беларускім студэнцкім гуртком у Пецярбузе. І хоць пісаў не шмат, рэдка, аднак творы „Каганца“ заўсёды адзначываліся арыгінальнасьцю і цікаўнай формай.

Калі ў пачатку дзевяцісотных гадоў пачала ладзіцца першая беларуская палітычная арганізація „Беларуская Рэвалюцыйная Грамада“, „Каганец“ быў у чысьле тварцоў яе і адным з найбольш чынных членаў у рэвалюцыйнай рабоці 1904—1905 гадоў.

Аднак, тут з ім здарылося нешчасьце. Выехаўшы дзеля агітаціі на вёску разам з некалькімі таварышамі-грамадзянамі, „Каганец“ быў арэштован і засуджэн у вастрог. Гады вастрожнага жыцьця дрэнна адбіліся на яго здароўі, заўсёды быўшым слабым. Але цяжкая кара не зьмяніла Яго паглядаў і веры ў беларускую справу.

Цяжкіе былі для „Каганца“ гады рэакціі. Трудна было здабываць будны хлеб—для сябе і для сям'і. Браўся за ўселякую работу, — але сілы ўжо былі ня тые. Прыходзілося кідаць адно месца і шукаць другога.

„Каганец“, наагул, быў непаседлівага характару. Доўга на адным месцы высядзець ня мог. І мы сустрэчаліся з Ім то ў Менску, то ў Вільні, то ў Пецярбурзі. Але вёска найболей вабіла Яго да сябе, і найлепей жылося „Каганцу“ ў лясным гушчары, здалёк ад мястовага руху і гоману людзкага.

Калі пачалася вайна, фронт раздзяліў нас, і мы ўжо нічога аб „Каганцу“ ня чулі. Толькі, як дайшлі да нас нумэры менскіх газэт, знайшлі мы ў „Вольнай Беларусі“ пару легенд „Каганца“ і з гэтага даведаліся, што Ен жыве і працуе дзеля беларускае справы.

Аднак, сустрэціцца з Ім ужо не давялося: гэтымі днямі прыйшла сумная вестка, што „Каганца“ не стало...

Сьпі-ж спакойна ў роднай Зямлі, добры Таварышу! Сьледам за „Цёткай“, зыйшоў і Ты ў магілу, і ізноў паменшыўся кружок людзей, з імем каторых зьвязаны першые зачаткі адраджэньня нашага народу. Праўда, ня ўсе імёны вядомы грамадзянству, бо праца беларуская пачыналася ў тайне — укрываючыся ад маскоўскае ўлады. Але цяпер ужо німа патрэбы хавацца пад псэўдонімамі, і імя Казіміра Кастравіцкага — „Каганца“ будзе вечна жыць у памяці беларусаў.

*А. Л.*

## С твораў К. Каганца

### Сьцяты камень *)

Засьвітала раніца
Посьле веснавое ночы.
Князь Дулебаў, сам Кумар,
Праціpае зо сну вочы
І, накінуўшы кажух,
У поле выйшаў падзівіцца,
Сьвежым ветрам веснавым
Зо сну крыху асьвяжыцца.

Разам стаў
І знак даў,—
Баярына клікнуў:
„Хадзі сам,
„Глянь во там!“ —
І на тор падмігнуў.

„Пазнай, вою дазнаны,
„Хто тут сьлед вось той пакінуў?
„Дзе ён сам, той чужанін?
„Дакуль зьехаў, дзе ён згінуў?
„Неспакоен гэтым я:
„Чы ня вораг нас цікуе,
„Ды зьнячэўку хіба нас,
„Наляцеўшы, зьбіць мяркуе?..“

. . . . . . . . . . .

Прайшоў ветах,
Маладзік,
Повен месяц засьвяціў.
Ясна, цёпла;
Вецярок
У полі пылам закурыў.

Страх Дулебаў піхіх зьняў,
Бо йшчэ ўбачылі здалёку,
Што падняў бой люты Гуд
Сам наперад з агнём ў воку.
Добро сэрцэ меў Кумар:
Сьмерць ад люду каб зьвярнуці,
Выйшаў к Гуду сам адзін,
Штобы Гуда супынуці.

Бой прыняў
Сам на сам
З Гудам дый на грудзе;
У мечы тнуць,
Іскры б'юць,—
Чый то верх там будзе?

Ой, заўзяты бой вядуць;
Князём рукі ўжо памлелі.
Сабе спуску не даюць,
Хоць с труду саўсім счарнелі.
Славы траціць Гуд ня хочэ,
З нічым да хаты ад'ежджаць;
За другіх Кумар баіцца,
Каб іх ў полан не аддаць.

Чуць жывуць,
А ўсё тнуць;
Той махнуў, той шахнуў;
Гуд сабраў
Усю моц
І мячом узмахнуў.

Кумарова галава
Ня замлю пакацілася,
Ды праява дзіўная
Над ім прылучылася:
З заўзятасьці абодвы
Зыйсьці з мейсца не маглі,—
Пазастылі бо князі,
Як першы, так другі.

І Кумар
Ды і Гуд
Разам скамянелі.
Многа лет.
Знае сьвет,
С тых пор праляцелі.

Ольса рэка, як тады,
І цяпер там працекае,
Ды ў Бярозу, у раку,
Сізу ваду заганяе;
Куджэравы лес стары
Зьвесіў галаву і ціха
Малітву шэпчэ за іх,
Як дзед, а нам друго ліха...

. . . . . . . . . . . .

*К. Каганец.*

*) Тэма гэтага вершу—народная легенда з Любушанскай пушчы, Ігуменскага павету.

Францішк Олехновіч.

## На Антокалі.

п'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 45).

МІХАЛІНА.

Нічога не разумею! Здурнеў, ці што? Пан Ігнат, што ён гамоне? якіе поў мільёна? чаго поў мільёна? дзе поў мільёна?

ІГНАТ.

Але. Пан Вінцэнты добра кажэ, толькі яму трохі трудна растлумачыць.

ВІНЦЭНТ (да Ігната).

Чэкай! ёй я растлумачу, тады яна ўсё зразумее... Поў мільёна!.. разумееш, што гэта значыць: поў мільёна?

МІХАЛІНА.

Дык якіе-ж поў мільёна? чаго?

ВІНЦЭНТ.

Ну, дык гэтых доляраў, ці як там іх... Пачцівы дзядзька Ігната запісаў яму поў мільёна! (да Ігната): Пацалуй мяне, галубок!

МІХАЛІНА.

Што ты: бобу аб'еўся? ідзі спаць!

ВІНЦЭНТ.

У газэтах пісалі!

ІГНАТ.

Але, пані! Пан Вінцэнт кажэ праўду, толькі што трохі... аслабеўшы...

МІХАЛІНА.

Скажэце: п'яны!

ІГНАТ.

...Дык не зусім зразумела выходзіць... Рэч вось у чым:

Ведаеце ўжо, што я ў Амэрыцы маю радню. Некаторым з іх жывецца вельмі добра ды толькі я не перапісываюся з імі... Вось, бачыце, нідаўна памёр у Чыкаго Апалінары Радзівіллові́ч, пасьля каторага асталося больш за 500 тысячаў і гэтые грошы ён запісаў мне. Так было надрукавано ў газэці.. „Ігнат Радзівіловіч, чыноўнік у Вільні“... і так далей — (выймае газэту)... Вось там у нізе, азначэна чырвоным алаўком.

(Усе, апрача Вінцэнтага, кідаюцца на газэту).

МІХАЛІНА (парушэна).

О, Божэнька! Дык што ж вы сядзіцё, як мум'я і нічога не кажэце? Ну, дык што, што далей?

ІГНАТ.

Праўду кажучы, я не магу дагэтуль сьцяміць, якая мне радня гэты нябошчык. Бо бачыце: мяне зрадзіў Амброжы Радзівілловіч, Амброжага зрадзіў Клеофас, а ў Клеафаса быў зродны брат, каторага звалі Апалінары. Але той Апалінары ніколі ня быў у Амэрыцы, а памёр ужо даўно, і пахавалі яго тутака ў Вільні на Бэрнардынскіх магілках. Знакам тым, гэта ёсць ня той Апалінары, знакам тым у маей радні быў другі Апалінар...

ВІНЦЭНТ.

Ну дык ведама, што быў другі Апалінар!

МІХАЛІНА.

Ціха! не перэшкаджай!

ІГНАТ.

Ну, дык я зараз-жэ пабег да аднаго-другога разумнага чэлавека, пытаюся, што рабіць? Адзін кажэ, што як ужо ў газэце аб гэтым пішуць, значыць ўжо нешта ёсць, — другі кажэ, што ня трэба гэтаму лішне верыць і дае раду, каб я напісаў да консуля... — Ну, дык я, і напісаў да консуля, каб мець ужо поўную пэўнасць! Не хацеў нічога казаць, пакуль ня прыйдзе даказ... Ажно сягоньня, ідучы с почты, спаткаўся з панам Вінцэнтым, ну і расказаў яму аб усім.

ВІНЦЭНТ.

Але. Аб усім...

МІХАЛІНА.

Я не разумею: гэта ўжо напэўна, ці яшчэ не напэўна?

ВІНЦЭНТ.

Зусім напэўна!..

МІХАЛІНА.

Ціха! маўчы!

ІГНАТ.

Як-бы вам, панечка, сказаць!.. С пачатку думаў, што не. А што, калі абмылка?! Але вось прыходзіць да мяне Арон, (ведаеце, той, што мае тут краму і займаецца рознымі інтэрэсамі, і кажэ: хочэце, панок, дык я вам магу пазычыць грошы, кажэ, колькі хочэце, кажэ, сто, дзьвесьце, трыста рублёў, кажэ..

